# НАВІНКІ

12 - 25 лістапада 1999 №12(20) Кошт свабодны

Беларускі Народны Фронт, увесь беларускі народ панесьлі цяжкую страту. З палітычнага жыцьця сышоў верны працягвальнік вялікай справы Адраджэньня, палымяны нацыяналіст і змагар за Незалежнасьць, буйнейшы кансэрватыўна-хрысьціянскі і антыдзяржаўны дзеяч сучаснасьці **Зянон Станіслававіч ПАЗЬНЯК**



# ЗВАРОТ
## Управы Беларускага Народнага Фронту

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне», увесь беларускі народ панесьлі цяжкую страту. 30 лістапада 1999 году а 20 гадзіне пайшоў з палітычнага жыцьця Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і партыі БНФ Зянон Станіслававіч Пазьняк. Уся шматбаковая дзейнасьць, асабісты трагічны лёс З.С.Пазьняка неаддзельныя ад галоўных этапаў гісторыі краіны. Паўсюль, куды б ні накіроўваў яго Фронт, дзе б ні прыціскалі яго ўлады, Зянон Станіслававіч аддана, з уласьцівай яму энэргіяй і прынцыповасьцю змагаўся за бесьсьмяротныя ідэалы ВКЛ.

З асобай спадара Пазьняка кансэрватыўныя хрысьціяне ўсёй плянэты зьвязваюць пасьлядоўнае сьцьвярджэньне нормаў Адраджэньня і апазыцыйнага жыцьця. Зянон Станіслававіч мудра накіроўваў дзейнасьць Сойму і Ўправы Фронту, дэманструючы прыклад апазыцыйнай варожасьці і сэктанцкай непрымірымасьці. Пакуль білася франтавое сэрца Зянона Станіслававіча, ягоныя думкі і справы былі заўсёды падпарадкаваныя інтарэсам сваіх замежных гаспадароў. З простымі сябрамі апазыцыі Пазьняка заўсёды зьвязвалі непарыўнае крывавае сваяцтва і цёмныя справы.

Цяжкая панесеная намі страта. Вялікая наша жалоба. У гэты жалобны час усе буржуазныя нацыяналісты яшчэ шчыльней гуртуюцца вакол вячоркаўскага Сойму БНФ, ягонага кіруючага ядра, што склалася пад спрыяльным уплывам Зянона Станіславіча. Імя Зянона Станіслававіча Пазьняка – вернага змагара за незалежнасьць і палымянага нацыяналіста – будзе вечна жыць у нашых сэрцах.

### Сойм Беларускага Народнага Фронту, Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету XIII скліканьня, Прэзыдэнт Беларускай Народнай Рэспублікі пастанавілі:

1. У дзень палітычнага пахаваньня Зянона Станіслававіча Пазьняка абвясьціць агульнаапазыцыйны траўр: адмяніць забаўляльныя праграмы на Беларускай службе радыё «Свабода» і прыпыніць на пяць хвілінаў працу апазыцыйных прадпрыемстваў і арганізацыяў па ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і Беларускай Народнай Рэспублікі.
2. Падчас палітычнага пахаваньня Зянона Станіслававіча Пазьняка зьдзейсьніць залпы каменьнямі і бутэлькамі з кактэйлем «Молатава» ў сталіцы Рэспублікі Беларусь г.Менску і абласных цэнтрах, а таксама ў крэпасьці-герої Берасьце.
3. Стварыць камісію па арганізацыі палітычнага пахаваньня Старшыні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і партыі БНФ Зянона Станіслававіча Пазьняка ў наступным складзе: сп. Вячорка Вінцэнт (старшыня), Івашкевіч Віктар, Севярынец Павал, Сіўчык Уладзіслаў, Бяляцкі Аляксандар, Жук Павал, Вольскі Лявонці, Камоцкая Касандра (яшчэ 482 прозьвішчы).

### АНАТАМА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ аб хваробе і прычыне сьмерці З.С.Пазьняка

Пазьняк З.С., 1944 году нараджэньня, пакутваў на неадэкватнае ўспрыняцьце існуючай рэчаіснасьці, якое суправаджалася незваротнымі рубцовымі пераўтварэньнямі структуры галаўнога мозгу і поўнай анэўрызмай палітычнай інтуіцыі. У эміграцыі хвароба абвастрылася і набыла хранічныя формы. У пацыента зьявіліся мэтастазы і перхаць. А 20 гадзіне 30 лістападу 1999 г. адбылася палітычная сьмерць З.С.Пазьняка. Пры паталяга-анатамічным дасьледаваньні палітычнага трупу пастаўлены раней дыягназ цалкам пацьвердзіўся.

ДОГОВОР о создании союзного государства

**У абмеркаваньні саюзнага дагавору прыняў удзел кожны беларус.** **Стар. 4-5**

*Паняцьце «адмарозак» – гэта не палітычнае перакананьне. Гэта – мэдычны дыягназ.* *Стар. 3*



**Шалёны.** Чырвона-Зялёны Плашч бярэ сьлед. *Стар. 6-7*

**Halloween у ДК «Сукно»**



Канцэптуальны комікс. **Стар. 8**

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 5200 экз. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 11.11.1999 г. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная Зорка" ППП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2049



















# Цуда-фінікі

## Казкі пра маленькага Мука штурхнулі тэрарыстаў на злачынства супраць славянскай антрапалёгіі

Кінуўшы ўзрываць хмарачосы-хрушчоўкі, чачэнскія інсургенты вынайшлі новы сродак трэціраваць твары расейскай нацыянальнасьці. Усё пачалося са зьяўленьня на базары ля Кіеўскага вакзалу новага гандляра-латочніка, які прапаноўваў масквічам і гасьцям сталіцы свой незамысловаты ўсходні тавар: «А вось фінікі! Фінікі! Набывайце чачэнскія фінікі! Два пакупаіш, адын за так палучаіш! Воінам-фэдэралам і чылэнам правітэлства сыкідка!»

**_Вялікую цану заплацілі масквічы за сваю цікавасьць да каўкаскіх фруктаў_**

Смачныя фінікі разышліся на «ўра» сярод аматараў бананаў і ананасаў. Але на наступны дзень адбылося нечаканае. У тых грамадзянаў, што ўжывалі ічкерскія фрукты, пачаліся сур'ёзныя непрыемнасьці.

Справа ў тым, што ўзрошчаныя клапатлівымі рукамі Басаева і дастаўленыя з сакрэтнай грозьненскай цяпліцы ў Маскву, фінікі радыкальным чынам уплываюць на фізіянамічныя асаблівасьці спажыўцоў: пасьля цуда-фінікаў у расейскіх грамадзянаў замест нардычных насоў-бульбачак вырастаюць гарбатыя каўкаскія шнобелі.

Раніцай сотні затрыманых для «высьвятленьня асобы» масквічоў праходзілі апрацоўку ў міліцэйскіх пастарунках:

– Як прозьвішча?

– Іваноў.

– З такім носам ды Іваноў?! Зараз мы табе «ластаўку» прапішам, дык адразу скажаш, дзе гексаген хаваеш!

Жахліва тое, што ўся вахабіцкая акцыя, як высьветлілася, была скіраваная супраць прэм'ер-міністра Пуціна, вядомага сваёй неабыякавасьцю да ўсходніх прысмакаў. Вось і ў той кляты дзень, праяжджаючы на працу міма Кіеўскага вакзалу і пачуўшы правакацыйную рэкляму, прэм'ер спыніў картэж і паслаў бодыгарда набыць кіляграмчык фінікаў. Цуда-фінікі так зьмянілі зьнешнасьць Пуціна, што зараз ён не высоўвае



носу з свайго крэмлёўскага кабінэту. Каб схаваць зьнікненьне другога чалавека Расеі з блакітных экранаў тэлевізараў, СМІ быў дадзены загад тэрмінова зрабіць відэамантаж і гнаць дэзынфармацыю аб нібыта наведваньні галавой ураду расейскіх рэгіёнаў.

Безумоўна, справай занялося ФСБ, але зачыстка рынку ля Кіеўскага вакзалу нічога не дала: фруктовы тэрарыст як скрозь зямлю праваліўся. ФСБэшныя аналітыкі мяркуюць, што ў хуткім часе Басаеў прапануе расейскаму ўраду цуда-фінікі зь іншай цяпліцы, здатныя вярнуць насы расіянаў у нармальны стан. Але запатрабуе за гэта вываду фэдэральных войскаў з Чачэніі.

Цікава, ці хопіць Пуціну вытрымкі, каб адмовіцца ад ультыматуму тэрарыста?

**Віталь Дарэнка**

# Мільён за галаву вахабіта

## _Тысячы беларусаў кінуліся на Каўказ у пагоні за «даўгім рублём»_

Калі з паўгады таму радыкальныя патрыёты абвяшчалі набор на вайну ў Югаславію, яны нават і ўявіць не маглі, што праз паўгады іхныя тэлефоны абарвуць званкі тысячаў добраахвотнікаў.

**«Калі паляўнічыя ня йдуць да Басаева, то хай Басаеў ідзе да паляўнічых» – такім прынцыпам жыве большасьць беларускіх паляўнічых за вахабіцкімі скальпамі**

Зьдзівіла толькі адно – усе патрыёты як адзін чамусьці жадалі ехаць не да братоў-сербаў, а ў Чачэнію.

Патлумачыць такі выбух патрыятычнай актыўнасьці аказалася вельмі проста. Нядаўна расейскі прэм'ер Пуцін публічна «заказаў» вахабіцкіх лідэраў, паабяцаўшы лімон баксаў любому, хто прынясе галаву Басаева. Сярод простых беларусаў са стабільным, але невялікім заробкам такая сума выклікала натуральны экстаз. Літаральна кожны пранікся сьвятой мэтай барацьбы з тэрарызмам, а сама Чачэнія патроху ператвараецца ў Эльдарада для аматараў паляваньня на вахабіцкія скальпы.



Але з голымі рукамі на вахабіта ня выйдзеш. Студэнты, пэнсіянэры і працоўныя пачалі ліхаманкава ўзбройвацца. Працэс дасягнуў фантастычных памераў. Па краіне раскопваюцца «вінтарэзы», захаваныя яшчэ з часоў Слуцкага збройнага чыну. У Барысаве быў абрабаваны мясцовы пнэўматычны тыр. Пачасьціліся ўгоны «кукурузьнікаў», на якіх новаяўленыя хэдхантэры спадзяюцца пранікнуць у Чачэнію праз саюзную паветраную прастору. Праўда, большасьць зь іх з-за недахопу паліва падае ў Смаленскай вобласьці.

Больш кемлівыя ўсё ж такі рознымі шляхамі пранікаюць на тэрыторыю ЧРІ і распачынаюць там ліхаманкавыя пошукі Басаева. Ды тут паляўнічых за халявай чакае расчараваньне. Знайсьці Басаева ня гэтак лёгка, як здавалася напачатку. Пашанцуе тут ня кожнаму. Большасьць, разумна раскінуўшы, што няма сэнсу лавіць вахабіта ў гарах, асядаюць стацыянарна ў далінах. Яны спадзяюцца, што калі-небудзь Басаеў раптам праедзе менавіта праз іхную вёску, а таму можна яго тут і пачакаць. Цяпер Чачэнія ўсё менш нагадвае гарачую кропку. Хутчэй гэта дзікі сымбіёз Кландайку і партызанскай Беларусі. Натоўпы беларускіх «паляўнічых за галовамі» засноўваюць гарадкі, у якіх яны тонуць у беспрабудным п'янстве і самагонаварэньні, прасаджваюць апошнія грошы на гульні ў рулетку і адбіваюць рэдкія набегі вахабітаў, якіх ужо даўно загналі ў горныя рэзэрвацыі.

Іншым разам уначы зь лесу выходзяць затурканыя фэдэралы, якія ўвальваюцца ў бліжэйшы салун з пытаньнем: «Дед, чеченцы в деревне есть?» Атрымаўшы на хвост пагоню зь вясёлых п'яных беларусаў, перапалоханыя салдаты зноў хаваюцца ў бліжэйшым лесе.

Фактычна сёньня тэрыторыю Чачэніі кантралююць не фэдэралы і не чачэнскія тэрарысты. Што ж чакаць ад гэтай беларускай перасяленчай піянэрыі, казаць цяжка

**Самагонавы Джо**

## Праўда пра Курапаты

**У** свой час дзяльцы ад БНФ зрабілі ўсё, каб гэтае слова выклікала асацыяцыю з пляскай сталінскага тэрору. Мы былі ў шоку. Насуперак патрыятычнай інтуіцыі мы нясьліся за прапагандысцкім шырпатрэбам. Нашчадкі, не судзіце нас строга.

Занадта позна афіцыйныя гістарычныя экскурсаводы растлумачылі нам, што не было ў Курапатах аніякіх чэкістаў. Новая тэорыя паадшыбала німбы з галоваў апазыцыйных херувімаў. Мала таго, як лічыць сп.Абэцэдарская, як раз беларускія нацыяналісты і былі рухавікамі Курапацкай трагедыі.

Менск 25.03.1918. Нацыяналісты прымаюць дэкляраныю аб незалежнасьці. Відавочна, незалежнасьць іхная – туфтовая.

Натуральна адно – паталягічная нянавісьць нацдэмаў да ўсяго расейскага. І выхад гэтай нянавісьці не прымусіў сябе чакаць. У краі дадзены старт антырасейскаму тэрору, у параўнаньні зь якім Рабэсп'ер і герцаг Альба адпачываюць.

Расейскамоўнае насельніцтва сутуліцца ад жаху, лаяльна трусіць міма малойчыкаў у саламяных капелюшах колеру хакі. Яны – нэрва новага парадку, Нацыяналістычная Кайзэраўская Вялікалітоўская Дружына (НКВД). Асноўная частка іхнай «працы» прыпадае на начныя часы, калі чорныя вазы-варанкі НКВД рышчуць у пошуках Сідаравых, Пятровых і Івановых.

4 гадзіны ночы. Мірна сьпіць дом на пр.Язафата Кунцэвіча (былая вул.Захар'еўская). Раптам грук у дзьверы кованымі лапцямі: «Адчыняйце!» Гаспадар ліхаманкава навешвае фоташпалеры «Гетман Астрожскі прымае капітуляцыю ад вераломных азіятаў пад Воршай». З фальшывай усьмешкай адчыняе. Госьці з НКВД, папраўляючы слуцкія партупэі, сьлепяцца ў свае паперы. «Тааак... Іваноў Іван Іванавіч? Выкладчык г.зв. рускай славеснасьці? Забароненыя да ўжываньня матрошкі, балалайкі, самавары, літаратуру на небеларускай мове захоўваеце?» Мяшчанін трэзвоніць: «Памылачка-с. Я Янка Янчэўскі з-пад спрадвечнага беларускга Бранску. Дарэчы, у паўстаньні 1863-га году быў юнгам у запасе на флоце Каліноўскага. Вось мая даведка з ваенкамату». У адказ каты азартна паддзяюць паркет, дастаючы з тайніка крамолу – томік Пушкіна і трохструнны музычны інструмэнт. Псы тут жа мятуць небараку-Іванова і адпраўляюць на баланду ў НКВД.

Там, у казяматах, засядаюць судовыя тройкі, набраныя зь бязьлітасных жупаністых магнатаў і езуітаў-ксяндзоў, якія шыюць вязьням расстрэльны артыкул. Абвінавачаньне гратэскнае: супрацоўніцтва з разанскім шпіёнскім цэнтрам, дывэрсіі на карысьць разьведкі Нечарназем'я... З ранку ахвяраў чыстак грузяць на ровары і адпраўляюць у Курапацкі лес. Тут іх прымушаюць капаць ямы у чалавечы рост, кажучы, што менавіта гэтак зьбіраюць бульбу. Расіяне даверліва выконваюць загады, ня ведаючы, што рыхтуюць сабе магілы. Потым, ахвіцэр з НКВД дае знак і... мушкетная чарга плюе прама ў затылак вязьняў. Не пасьпела рэха стрэлаў заткнуцца, як наступае новая фаза злачынстваў –замятаньне сьлядоў.

Трупы хуценька закапваюцца, а на магілы ставяцца таблічкі: «Тут быў Вася – крывавы сталінскі кат. 23.3.1937». Нацдэмаўскія апрычнікі грыбуць у сталіцу за новай партыяй рэпрэсаваных. Яны думаюць, што назаўсёды пахавалі канцы сваіх злачынстваў, падвёўшы пад абвінавачвалку чэсных людзей кшталту Берыі і Яжова. Сапраўды, мы доўга наводзілі дарма напрасьліну на згаданых савецкіх грамадзянаў. Але гісторыя – лепшы опэр. Яна дакапалася да гістарычнай ісьціны. Ваша карта бітая, спадары-адраджэнцы!

# Як гэта было

## Лёс аднаго апазыцыйнага казла дасюль не дае спакою ягоным аднадумцам

«За казла, казлы, адкажыце» (*Навіны*), «За што забілі казла?» (*Свободные Новости*), «Вязень сумленьня – казёл» (*Беларуская Маладзёжная*)... Увесь мінулы тыдзень гэткімі загалоўкамі стракацелі першыя палосы апазыцыйнай прэсы.

Казёл Лука, арыштаваны падчас Маршу Свабоды і зачыканы фараонамі на двары адной зь міліцэйскіх апорак, на гадзіну стаў каліфам незалежных масмэдыя. Для выкармышаў Сораса жмурык быў акурат «да абеду». Выпадак з казлом быў адразу ўпісаны самымі кідкімі фарбамі ў белую кнігу злачынстваў аўтарытарнага рэжыму прэзыдэнта. Паспрабуем цьвяроза, без сэнтымэнтальных сюсюканьняў, рэтраспэктыўна пракруціць жыцьцёвы шлях нябожчыка. Казёл Лука нарадзіўся ў вёсцы Рагулі Магілёўскай вобласьці. Бацькі – звычайныя калгасныя казлы, якія за паўсядзённай працай не маглі прысьвяціць сыну дастаткова часу, каб іхны отпрыск выбіўся, што называецца, «у людзі». Зь дзяцінства Лука зарэкамэндаваў сябе як цяжкі падлетак, якога селяне неаднаразова застуквалі на суседнім агародзе за флегматычным крадзяжом чужой капусты.

Ня дзіўна, што антысацыяльнасьць і неакрэсьленасьць жыцьцёвай пазыцыі вялі чысталюбівага бадлівага Луку прамёханька ў шэрагі апазыцыі. Казёл падбіваў казьліх на калгаснай фэрме не даваць малака «злачыннаму рэжыму».

Зразумела, што такі адмарозак як Лука ня мог прайсьці міма Маршу Свабоды.

Накаціўшы грамаў сто беляны, ён разам са сваімі падзельнікамі з «Маладога фронту» выйшаў на антыўрадавую акцыю. Адпаведна пратаколу міліцыі, казёл удзельнічаў у несанкцыянаваным шэсьці ад плошчы Якуба Коласа да плошчы Бангалор. Па ходу руху калёны адмаражаны баявік Лука ніяк не рэагаваў на заўвагі міліцыянтаў, ішоў па праежджай частцы, перашкаджаючы руху аўтатранспарту, выкрыкваў правакацыйныя лёзунгі ў адрас міліцыі: «Бе-е-е-ей! Бее-е-ей!»

Маладыя казлы разам з Лукой прыйшлі на г.зв. «Марш Свабоды». Для некаторых зь іх ён стаў апошнім...

Зразумела, што органам нічога не заставалася як прысекчы хуліганскія дзеяньні жывёлы. Пры затрыманьні Лука адразу заказьліўся і адмовіўся лезьці ў міліцэйскі «казялок». Пры спробе міліцыі даць яму па рагах, экстрэміст аказаў супраціў міліцыі, выкарыстоўваючы халодную зброю. У пастарунку атрыцалава працягвалася: затрыманы нацыяналіст рабіў выгляд, што не разумее расейскай мовы, нахабна адмаўляўся адказваць на пытаньні і нават не падпісаў пратаколу.

Калі ж Луку вывелі на двор, каб даставіць на



Акрэсьціна, той стаў пратэставаць і вырывацца. Пры спробе бегства небарака сам напароўся на ножычак і адкінуў капыты. Службовае расьсьледаваньне паказала правамоцнасьць дзеяньняў супрацоўнікаў міліцыі і канстатавала няшчасны выпадак.

А ўсе інсынуацыі вакол таго, што нібыта міліцыянты зьелі труп казла, ня маюць пад сабой аніякай глебы. Нашы міліцыянты – не канібалы!

**Уільям Казлоў**

## Папулярны сёньня тэрмін «адмарозак» – гэта не палітычнае перакананьне. Гэта – мэдычны дыягназ.

# Беларуская чумка

*«Чума канца XX стагодзьдзя» – гэтак акрэсьлілі беларускія навукоўцы эпідэмію абмаражэньня падкоркі галаўнога мозгу, якая апошнім часам захляснула ўнівэрсытэты і інтэрнаты сталіцы. Прычынай эпідэміі вызначаная нізкая тэмпэратура ў жылых пакоях ды аўдыторыях...*



**К**алі пасьля падзеяў 17 кастрычніка хатнія гаспадаркі, наглядзеўшыся тэлевізару, пужалі «злымі адма-розкамі» малых дзяцей, ніхто й не задумваўся, адкуль узяліся гэтыя страхалюдныя хлопцы, дзе іх карані. Наўрад ці чувак з арматурынай – прадукт нашай талерантнай культуры... Вы б хацелі бегаць па вуліцах, пхаць трамваі і атрымліваць дубінкамі пендзюлей? Ніводны нармальны чалавек у здаровым стане такога жаданьня не выказвае. Крыніца гэтай паранармальнай зьявы значна бліжэй, чым вы думаеце.

Як высьветлілі незалежныя экспэрты, у дадзеным выпадку размова ідзе аб хваробе абмаражэньня падкоркі галаўнога мозгу, што адказвае за грамадзкую пазыцыю. Каварства хваробы ў тым, што вірус адмаражэньня пачынае паразытаваць толькі пры моцным пераахалоджваньні арганізму. Менавіта за гэты дзіўны эфэкт ахвяраў эпідэміі трапна празвалі «адмарозкамі».

Пры дасьледаваньні ўспышкі эпідэміі адмаражэньня спэцыялісты зьвярнулі ўвагу на той факт, што кастрычніцкія выкідоны апазыцыі супалі зь першымі зімовымі замаразкамі. Зразумела ж, што з надыходам халадоў першымі пацярпелі самыя незагартаваныя асабі – студэнты. Там, у халодных пакоях інтэрнатаў, вірус зрабіў сваю маразільную справу, трыльёнамі плодзячыся ў мозгах пралетарыяту навукі.

Добра, што замаразкі хутка скончыліся. Страшна падумаць, што б магло здарыцца, каб ня экстраны пачатак ацяпляльнага сэзону. На гэты раз эпідэмію атрымалася папярэдзіць, але й сёньня, седзячы ў цёпла натопленай кватэры, ня варта губляць пільнасьці.

Небясьпека тоіцца ў адчыненых фортках, вокнах і дзьверах, празь якія зыходзіць каштоўнае цяпло. У гэтых абставінах «Энэргазьберажэньне» набывае статус праграмы нацыянальнай бясьпекі. Можна меркаваць, што хутка ў дзіцячых мульціках па БТ Паца-Ваца будзе тлумачыць дзеткам на фоне вулічных беспарадкаў пра тое, чаму трэба берагчы цеплыню ў хаце. Актуальным стане новы дэвіз дню: «Ня будзь адмарозкам – беражы цяпло!» Дарослыя ж мусяць усьвядоміць простую ісьціну: небясьпечная хвароба ня лечыцца і папярэдзіць яе можна толькі прафіляктыкай. Засьцеражэм Беларусь ад адмарозкаў!

**Сава Марозаў**

# ДАГАВОР




# НАРОД СУР'ЁЗНА АБМЕРКАВАЎ










## ТЭст на палітЫчнуюлаЯльнасыць

## Як актыўна Вы абмяркоўвалі Праект саюзнага дагавору?

Проект
ДОГОВОР
о создании союзного государства

**1.Якія дзяржавы ўваходзяць у склад удзельнікаў саюзнай дзяржавы Расеі і Беларусі?**
а)Чачэнія і Ічкерыя – 3
б)Беларусь і Расея – 1
в)Расея і Нахічаваньская АССР – 2

**2.Якія дакумэнты заклалі імкненьні да разьвіцьця інтэграцыйных працэсаў?**
а)Дамова аб стварэньні Саюзу Расеі і РБ ад 2.02.96, Дамова аб стварэньні Саюзу РБ і РФ ад 2.02.97, Дэклярацыя аб далейшай інтэграцыі ад 25.12.97 – 1
б)Пакт аб капітуляцыі мілітарысцкай Японіі ад 1945г. – 2
в)Указ аб узмацненьні барацьбы з алькагалізмам ад 5.02.1985 г. – 3

**3. Які прадмет рэгулюе глава 2 праекту дагавору аб стварэньні саюзнай дзяржавы?**
а)Выраб і збыт парнаграфічных рэчаў – 2
б)Жорсткія адносіны з жывёламі – 3
в)Грамадзянства Саюзнай Дзяржавы – 1

**4.Якія мэты саюзнай дзяржавы РБ і РФ?**
а)Захоп арабскіх тэрыторыяў на левым беразе ракі Ярдан і ў Сэктары Газу пад жыцьцёвую прастору сіяніцкай расы – 3
б)Няўхільнае захаваньне асноўных правоў чалавека і грамадзяніна – 1
в)Перадухіленьне гуманітарнай катастрофы на чачэна-інгушскай мяжы – 2

**5.Хто ўзначальвае Вышэйшы Савет Саюзнай Дзяржавы?**
а)Шарэцкі – 3
б)Кароль Леў– 2
в)Старшыня Вышэйшага Савету – 1

**6.У чым Вы ўпэўненыя як стваральнік Саюзнай Дзяржавы?**
а)Што стварэньне саюзнай дзяржавы дазволіць аб'яднаць намаганьні ў інтарэсах сацыяльна-эканамічнага прагрэсу вашай краіны – 1
б)Што ва ўсім вінаватыя жыды – 2
в)Што абедзены перапынак у гастраноме з двух да трох – 3

**7.Што мае саюзная дзяржава?**
а)Дэфіцыт бюджэту – 2
б)Надуўную бабу ва ўсіх пазыцыях Камасутры – 3
в)Герб, сьцяг, гімн і іншыя дзяржаўныя атрыбуты –1

**8.Хто фінансуе дзейнасьць дэпутатаў саюзнага парлямэнту?**
а)Чачэнская наркамафія – 3
б)Фонд Сорасу «Адкрытае грамадзтва» – 2
в)Месца настаяннай работы – 1

**9.Якое права маюць грамадзяне Саюзнай Дзяржавы?**
а)Права на саюзную дзяржаву – 2
б)Права выехаць у Канаду на ПМЖ – 3
в)Права абіраць і быць абранымі ў органы Саюзнай Дзяржавы – 1

**10.Якія органы ў Саюзнай Дзяржавы?**
а)Славянскі базар – 2
б)Апухлыя – 3
в)Дзяржсавет, Парлямэнт, Савет Міністраў, Суд, Уліковая Палата – 1

**11.На якой мове вядзецца справаводзтва ў Саюзнай Дзяржаве?**
а)На расейскай мове – 1
б)На мове зьвяроў, птушак і расьлін – 2
в)На тарашкевіцы – 3

### Праверце свае вынікі

**11 балаў**: Вы – апазыцыйны адмарозак, канцылярскі пацук са штаб-кватэры БНФ, які да дзірак праштудаваў праект Дамовы, каб вышукаць у яе тэксьце неісную чыя хібы. Вам бы толькі займацца неаргумэнтаваным крытыканствам і шукаць падставаў, каб не любіць Прэзыдэнта.

**18–22 балы:** Па ўсім відаць, што Вы шыракаплечая бляндынка, у якой усё ў парадку з сэксуальным жыцьцём. Зоркі на вашым баку. Наступны тыдзень прыдатны для новых пакупак, знаёмстваў, кар'ерных посьпехаў. Будзьце ўважлівымі пры выпадковых кантактах з вусатымі Дзевамі.

**24–33 балы:** Вы – соль дзяржавы беларускай, рыба-кіт, на якой трымаецца наша палітычная стабільнасьць. Вам чыхаць хацелася на фармальнасьці, відавочныя хібы праекту Дамовы. Вы ніколі не чыталі яе тэксту, апрыёры ведаючы, што Прэзыдэнт дрэннага Вам не пажадае. Вы шчыра верыце ў Прэзыдэнта і ягоную дзяржаваўтворную музу. За вамі сьветлая будучыня!!!

# ДАГАВОР



# ПРАЕКТ САЮЗНАГА ДАГАВОРУ







*Посьпех выступу нашага Прэзыдэнта ў Дзяржаўнай Думе натхніў хакераў*

# Лукашэнка ў DOOM'е




**Кожны хакер можа стаць Прэзыдэнтам. Праўда, пакуль што толькі ў віртуальнай прасторы... Аднак і гэтага хапае, каб ацаніць яго цяжкую працу**

Нарэшце прыйшло сьвята на вуліцу беларускіх кампутаршчыкаў. Дзіцячыя цацкі кшталту Duke Nukem'a, абодвух DOOM'аў ці галімага QUAKE даўно ўжо надакучылі крутым беларускім хакерам. «Душа прагне нечага крывавага, блукальна-стралялынага!» – стагналі аматары CD-action. І вось, нарэшце, дачакаліся!

«Лукашэнка ў DOOMe» – гэта рэліз 99 году. Тут ёсьць усё: kроў, пальба, жарсьці, зьнішчэньне ворагаў інтэграцыі і г.д. Галоўны герой гульні, Прэзыдэнт, пранікае ў цэнтар расейскага парлямэнтарызму – Дзяржаўную Думу. З гэтага й пачынаецца мясарубка...

Працягласьць гульні – роўна 1 гадзіна 49 хвілінаў. За гэты час вы мусіце пераадолець тры ўзроўні варожага лягеру: адпаведна Ніжэйшую, Вышэйшую палаты Дзярждумы і супэргульню. Спачатку трэба прайсьці з боем Ніжэйшую й Вышэйшую палаты, дзе неабходна віртуозна «раскласьці» ўсіх ворагаў і разьнесьці на шматкі палітычных гоблінаў, якія пагражаюць Беларуска-Расейскаму Саюзу.

Нарэшце, калі справа славянскага адзінства амаль выратаваная, вы выходзіце на вышэйшы ўзровень – Крэмль, дзе вас чакае сустрэча з галоўным монстрам (з выгляду ён нагадвае Ельцына). У разборцы сам-насам варта несупынна паліваць яго патокамі словаў, хаваючыся за непрабіўныя аргумэнты й робячы нечаканыя наезды. Праблема ў тым, што гэты «князь цемры» мае каля сотні жыцьцяў. Калі пашанцуе, вы знойдзіце батарэйку сілкаваньня монстра й пазбавіце яго магчымасьці рэанімацыі. У гэтым выпадку вы бярэце супэрпрыз: становіцеся Гіпэрпрэзыдэнтам, авалодваеце палітычнай бесьсьмяротнасьцю й можаце «сьцяліць» абсалютна ўсіх на ўсіх узроўнях ад Калінінграду да Ўладзівастоку.

Безумоўна, правесьці колькі прыемных гадзінаў у ролі несакрушальнага Прэзыдэнта – жаданая забава для любога фаната стралялак. Ужо сёньня гульня абяцае стаць неаспрэчным бэстсэлерам на беларускім рынку кампутарных забаваў ●

**Кібарг-Інтэгратар**

## *Конкурс*

### Ты можаш стаць шчасьліўчыкам!

Даярка,якая а пятай раніцы ідзе да сваіх цялушак; шахцёр, што лезе ў забой па гэтак неабходную краіне соль; мэханізатар, які праводзіць засеў азімых; настаўніца, якая тлумачыць дзеткам тонкасьці генэральнага курсу прэзыдэнта...

Усе працоўныя людзі Беларусі не расставаліся ні на хвіліну з гэтымі пацёртымі лісткамі «Праекту саюзнага дагавору». Менавіта для іх напярэдадні падпісаньня гістарычнага праекту рассейска-беларускага саюзнага дагавору наша рэдакцыя абвяшчае новы рамантычны конкурс.

Выражы з газэтаў дзесяць праектаў Саюзнага дагавору і дашлі яго ў рэдакцыю да 25 лістапада – дня магчымага падпісаньня Саюзнага дакумэнта.

Калі табе пашанцуе, то ты і твой сябра адправяцца ў рамантычнае навагодняе падарожжа за мяжу, у Расейска-Беларускі Саюз.

Не тармазі!.. Прыйшоў час выйграваць разам з *Навінкамі*.

# ГІСТОРЫЯ

## Тайна зьнікненьня найвялікшай беларускай сьвятыні раскрытая

# Крыж Еўфрасіньні

Раскрыць загадку гісторыі ўдалося непрызнанаму вучонаму-эмігранту Сяргею Шупу, на рахунку якога ўжо некалькі сэнсацыйных гістарычных знаходак. Вось і цяпер яму зноў пасьміхнулася старуха-фартуна.

Падчас адной з чарговых этнаграфічных экспэдыцыяў па праскіх піўніцах да яго падышоў стары жабрак і загаварыў на ламанай беларускай мове: «Паважаны спадар, дай троху бабак, шайс, на апахмелку».

Слова за слова, і авантурыст Шупа разьвёў жабрака на піва. У ходзе размовы высьветлілася, што алкаш-абарванец – былы групэн-фюрэр SS Ота фон Бухаф, які пад выглядам турка-бамжа вось ужо 55 гадоў хаваецца ад помсты бела-рускіх буржуазных нацыяналістаў.

Калі ж фон Бухаф расказаў, сьведкам якіх падзеяў ён быў і чаму ён вымушаны рэшту сваіх дзён праводзіць у піўным угары, то Шупа быў так узрушаны, што й сам ня памятае, як дабраўся дадому. Але на раніцу нечалавечымі намага-ньнямі волі, перамагаючы шалёны галаўны боль, ён дацягнуўся да кампутару й дрыжачымі ад хваляваньня рукамі набіў на дыскетку расказ таямнічага старыкана.

...Сьпякотным летам 1941-га авангардныя часткі Вэрмахту падступілі да Магілёву. Але першым у горад уварваўся атрад беларускіх партызанаў-«леса-вікоў», якія разгарнулі баявыя дзеяньні супраць расейскіх акупантаў яшчэ падчас Паўночнай вайны ў 1700-1721 гадах і да гэтага часу іх не прыпынялі, застаючыся вернымі Радзіме і яе каралю Аўгусту II Саксонскаму. Правадыр партызанаў, гетман напольны й калясовы Леў Тадэвуш Радзівіл, увайшоў у будынак абкаму партыі, сьціскаючы ў адной руцэ нямецкі «шмайсэр», а ў другой – асінавы кол (на выпадак, калі камуніс-тычных пярэваратняў ня возьмуць срэбныя патроны калібру «Па-рабэлум»).

На шляху старога лесавіка ўзьніклі сталёвыя краты спэцхрану КП(б)Б. Аднак стрэл з калясцовага мушкету справіўся зь перашкодай. Калі ж парахавы дым расьсеяўся, позірку гетмана адкрыліся нясьметныя скарбы, нарабаваныя чырвонымі бандытамі ў працоўнай шляхты й царкоўнай інтэлігенцыі. Але толькі адзін прадмет, толькі адна бясцэнная рэліквія прыцягнула ўвагу патрыёта-старажыла – крыж Еўфрасіньні Полацкай, сымболь беларускай дзяржаўнасьці. Паважна працёр Леў Тадэвуш шкляныя камяні (якімі ўжо ў новыя часы беларускія народныя майстры гэтак ювэлірна падмянілі сапраўдныя дыямэнты).



I раптам, шчоўкнуўшы спружынай, крыж расчыніўся. Уражаны лесавік выцягнуў пасланьне. Гэта быў берасьцяны пэргамэнт ствара-льніка крыжу, майстра Лазара Богшы, і праляжаў ён у тайніку восем стагодзьдзяў. Дрыжачым унутраным голасам Радзівіл пачаў разьбіраць глагалічныя каракулі: «Съмерды всехъ країнъ возъединяйтеся! Ибо речено есть въ писаніи: легче верблюду пролезти в игольное ушко, нежели боярыну-кровопійцу трапити в царствіе небесное. Перемога будетъ за нами, ибо сказано в писаніи: блаженны есть убогія духомъ, ибо они наследуютъ землю. Кто не с нами есть, тотъ супротивъ насъ!..»

Радкі рукапісу заскакалі перад вачыма нашчадка найстарэйшага магнацкага роду. Зь цяжкасьцю разьбіраючы старабеларускую мову, ён усё ж такі працягваў чытаць. З тэксту вынікала, што майстар Лазар Богша ўзначальваў тайны Свабодны прафсаюз ювэліраў Полацкага княства і належаў да герэтычнай сэкты леваслаўных, якія абвяшчалі сябе сапраўднымі хрысьціянамі. Яны дэмагагічна абвінавачвалі праваслаўную царкву ў перараджэньні, бо, маўляў, Хрыстос, у адрозьненьне ад полацкіх япіскапаў, не валодаў прыгоннымі сялянамі.

У сваім пасланьні Богша не збаяўся прызнацца, што грант, атрыманы ім ад Еўфрасіньні Полацкай на выраб крыжу, быў проста прапіты падчас брацкіх збораў. Сам крыж, як паведамляе Лазар Богша, быў выкананы ў герэтычнай леваслаўнай традыцыі і нагадваў ці то серп і молат, ці то перавернуты крыж...

Калі атрад эсэсаўцаў на чале з групэнфюрэрам Ота фон Бухафам уварваліся ў захавальню былога абкаму партыі, то засталі там жахлівую карціну: звар'яцелы рэлігійны фанатык Леў Тадэвуш Радзівіл вяршыў над герэтычным вырабам аўтадафэ. Узброіўшыся агнямётам, ён паліваў крыж полымем, гарланячы пры гэтым 43-і псальм ды пасылаючы праклёны герэтыку Богшу й наіў-най грантадаўніцы Еўфрасіньні.

Заўважыўшы няпрошаных наведнікаў, азьвярэлы нацыяналіст накіраваў вогненную плынь на выпадковых сьведкаў трагедыі. Не чакаўшы такога вераломства ад свайго вернага саюзьніка, ато-чаныя полымем немцы ў перадсьмяротных канвульсіях заміту-сіліся па ўнутраным памяшканьню будынку абкаму. Удалося выжыць толькі аднаму фон Бухафу.

Цудам выжыўшы, атрымаўшы сур'ёзныя фізычныя й псыхічныя траўмы, фон Бухаф перакананы, што й дасюль ён знаходзіцца пад калпаком у беларускай нацыяналістычнай арганізацыі «Хлоя» і вымушаны вось ужо 55 гадоў знаходзіцца ў нелегальным стане, хаваючыся сам і хаваючы тайну зьнікненьня крыжу Еўфрасіньні Полацкай у шумным вадакруце праскіх піўных ●

**Юрась Пузікаў-Воюш**

## «ЯК ГЭТА БУДЗЕ»



Палярызацыя грамадзкіх сілаў у краіне пасьля беспарадкаў 17 кастрычніка нечакана аказалася на руку супрацоўнікам аднаго з скульптарскіх бюро сталіцы. Сюды амаль адначасова ад розных кліентаў паступілі два заказы на праекты помнікаў. Абодва плянуецца адкрыць на вул. Першамайская і прысьвяціць сумнавядомым падзеям. Аднак першы заказ на манумэнтальны праект паступіў з асяродку патрыятычных сілаў і мае назву "Помнік невядомаму байцу АМАПу". Другі, што замовілі апазыцыянэры, праходзіць пад шыльдай "Мужным натрэніраваным баевікам – удзячная Радзіма". Архітэктары-прайдзісьветы, ня сталі паглыбляцца ў дэталі і зрабілі на густ заказчыкаў два праекты. Чый манумэнтальны ансамбль будзе ўпрыгожваць сталіцу – пакажа бліжэйшы час.



## ДэтэктЫЎ

# Вуліца разьбітых плітак

Хітрадупы Салана задумліва барабаніў пальцамі па шклу. За жалюзі штаб-кватэры NATO разухабілася залацістая брусэльская восень. Аднак натаўскаму акыну было не да труфэляў прыроды. Зь Беларусі прыходзілі чуткі пра чарговыя фэнамэнальныя прарывы і посьпехі сацыяльна-эканамічный мадэлі Лукашэнкі, ад чаго каардынатара паўночна-атлянтычнага блёку круціла ў прыступы эпілепсіі. «Ну я вам пакажу стабільнасьць», – твар Саланы ашчацініла гістэрычная грымаса. – «Сарваць, сарваць любымі сродкамі працэс перамоваў!»

Раптам у саланаўскай саабразілаўцы кавырнулася думка: «Эўрыка!!! А што калі замуціць Марш Свабоды?» Закляты вораг шматполюснага сьвету пагрузіўся ў транс думак: «Значыцца так, стабунім несанкцыянаванае шэсьце, потым, зразумела, правакацыя, дзясяткі параненых міліцыянтаў, тэлекарцінка на НТВ...»

Махавік каварнага пляну закруціўся. Цяпер справа засталася толькі за малым. Трэба было вырашыць, хто падгоніць у Менск афігенны куш «зеляні» на арганізацыю вулічнага дэбошу. Ваў! Як ён мог забыць, што ў Маскве Беклямішчава – палітычная прыблуда, якой славянскую Радзіму прадаць як на двор схадзіць. «Вырашана!» – імпэрыялістычны гангстэр рашуча падняў трубку. – «Алё, Масква, офіс «Яблыка», прыміце факс»...

Nad niebam Bruselu
chujovaje nadvorje,
vyvodźcie admarozkaŭ!
Salana

17 кастрычніка Чырвона-Зялёны Плашч удумліва чытаў перадавіцу Савецкай Беларусі, калі ў ягоны кабінэт уварваўся кур'ер. Ён працягнуў геніяльнаму супэрагенту перахвачанную дэпэшу-шыфроўку Саланы, накіраваную на сядзібу Фронту. Непаможнаму опэру было дастаткова аднаго погляду, каб раскусіць шыфр-клінапіс з Брюсэлю і канстатаваць трывожны факт – Радзіма ў небясьпецы!!! Апазыцыя рыхтуе новую правакацыю!!!

**1. ШТО НАПІСАНА Ў ЗАШЫФРАВАНАЙ ДЭПЭШЫ?**

Часу на роздум не заставалася. Плашч засунуў пад мышку верную хлапушку 45-га калібру, скокнуў на задняе крэсла «казла». Ментавоз з хуткасьцю макларэна паляцеў па праспэкту. Трэба было любымі сродкамі перахапіць ушлую Беклямішчаву. Калі Плашч прыбыў на Першамайскую, АМАП ужо астудзіў кодлу адмарожанных баевікоў. Уважліва аглядзеўшы яшчэ цёплае ад баёў месца, Плашч скумекаў, што «яблычніца» сьвяцілася тут зусім нядаўна.

**2. ЧАМУ ЧЫРВОНА-ЗЯЛЁНЫ ПЛАШЧ ВЫРАШЫЎ, ШТО ТУТ ПАБЫВАЛА БЕКЛЯМІШЧАВА?**





Храбры селезень не тармазіў. Разам з АМАПам ён рушыў на зачыстку кварталу. «Магчыма, што Беклямішчава не пасьпела сысьці далёка», – рухаў мазгамі Чырвона-Зялёны Плашч. Тым часам, група мужных амапаўцаў пачала шэрсьціць двор і пад'езды. Раптам ззаду ў кустах намаляваўся цёмны сылуэт. Незнаёмы, намагаючыся застацца незаўважным, стаў прабірацца ў цэнтар гораду. Чырвона-Зялёны Плашч, разумеючы, што гэта адзіная нітка да Беклямішчавай, ламануў па гарачых сьледях адмарозка. Яны вялі на Цэнтральны. Традыцыйна па вечарах пазытыўная моладзь сустракалася тут, каб абмяркоўваць праект беларуска-расейскага саюзу. Сярод маладых патрыётаў і вырашыў заціхарыцца агент NATO. Карыфэй беларускага вышуку прыкінуўся зборшчыкам бутэлек і пачаў вылічваць шпіёна сярод прысутных.

**3. ДАПАМАЖЫЦЕ ЧЫРВОНА-ЗЯЛЁНАМУ ПЛАШЧУ ВЫЛІЧЫЦЬ АГЕНТА NATO.**

Раскусіўшы нацыяналіста, беларускі Майк Хамэр ня стаў падымаць шухер сярод

# КОМІКС



HALLOWEEN
У СУКНЕ
Зноў аціпленьне вырубілі, «эканамісты»! Дабяруся я да гэтага Пацы-Ваца, нават у сьвяты спакою няма!.. Дарэчы, чаго б такога на Хэлоўін умудрыць...




Можа зноў пад Ельцына закасіць...




Не! Зараз гэтым крамлёўскім калекам нікога не спалохаеш




Во! Пабуду-ка я лідэрам Беларускага Адраджэньня. Дакладна ўсе абдзелаюцца!




Праверым на пільнасьць міністра ўнутраных справаў.




Жыве Беларусь! Як там у нас з захаваньнем дзяржаўнай незалежнасьці?




Ха-ха-ха! Ды я гэта. А ты, відаць, падумаў, што Зянон з эміграцыі вярнуўся?




Хм!.. А гэта добрая ідэя! Акурат у гэтых адмарозкаў з БНФ сёньня сходка. Пайду прыкалюся!




А ТЫМ ЧАСАМ НА БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКАЙ МЯЖЫ
– Слухай, Кузьма! А не напорымся на заставу?
– Спакойна, Зянон Станіслававіч, я ў гэтых лясах з 44-га году хаваюся




Тут недалёка таварняк да Менску праходзіць. Пасьпеем!
У Менску нас ужо чакаюць сябры партыі. Трэба б хутчэй!




У ГЭТЫ ЧАС
ДК СУКНО
Цішэй, я тут інкогніта! Толькі што э-э-э... з Варшавы!




Я пераглядзеў сваё стаўленьне да саюзу з Расеяй
Спакойна! Вячоркаўцаў мы ня пусьцім. Міліцыя ў маёй кішэні
??? Д-добра, мой старшыня, але ж сабакі Вячоркі будуць супраць




Хутчэй! Радзіма альбо сьмерць!




Слухай маю каманду! Антыбеларускія вячоркаўскія элемэнты гнаць у шыю!




Спадарства! Сёньня мы сабраліся падтрымаць Зянона Пазьняка...




...і ягоны новы курс, хм, на братні Саюз Беларусі і Расеі




Далоў здрадніка Пазьняка!
Наш прэзыдэнт – Вячорка!




Ну вось я і на месцы! От намылю дупу гэтаму мовазнаўцу!




Цішэй! Я тут інкогніта! Вы атрымалі мой факс з новым курсам?




Зараз я табе пакажу «інкогніта», курва варшаўская! Вось табе саюз!




Думаю, сёньня я добра павесяліўся! А на Новы Год буду Пракаповічам
Вось табе Расея!
ТРАХ
Вось табе новы курс!